# Покліч Волі

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №13 (123)
ВЕРАСЕНЬ 2012 ГОДА


**“Покліч волі” ў Інтэрнэце**

**Зараз наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org/ , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/poklicz_voli.html , што у каталагу “Пэрыёдыка” для далейшага выкарыстання яшчэ да з’яўлення газеты на паперы.**

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

# СУМНАЕ ВІДОВІШЧА

**У выбарчых працэсах за часамі Лукашэнкі–усё прадумваецца загадзя. Прэзідэнцкія выбары–ўзімку, каб па хатах сядзелі і па плошчах дарма не бадзяліся. Парламенцкія –увосень, каб вышэй баразны бульбаздабыччыкі свой карак асабліва не падымалі. І вось дзіва: не падымаюць, і не бадзяюцца.**

Дык вось разумныя палітолагі на гэты конт кажуць, маўляў, існуе сацыяльная дамова паміж уладай і народам: яна яму–мінімальныя даброты, а ён ёй–сваё лаяльнае да яе стаўленне. Прычым дамова тая за 18 гадоў ні разу не парушалася, і не бяда, што 1,5 мільярды народных грошаў ад таго крызісу ляснулі. Відаць, абодва бакі такі стан рэчаў задавальняе, але ж, кажуць, да пары жбан ваду носіць.

Не скажу, што сасуд ужо нельга выкарыстоўваць па прызначэнні, аднак гэтая выбарная кампанія, відавочна, іншая. Улада ў асноўным вуснамі Лукашэнкі і Ярмошанай тлумачыць людзям усе нюансы, звязаныя з выбарамі. Дык вось з іхняга патоку падсвядомасці вынікае некалькі цікавых нюансаў: апазіцыя–пятая калона, бо калі б была сапраўдная–выбары не байкатавала; байкот мусіць быць забаронены заканадаўча; дэпутаты не павінны займацца глабальнымі праблемамі, то бок палітыкай, а павінны быць бліжэй да надзённага жыцця народа; адзінага палітыка на ўсю краіну–дастаткова.

Словам, працэс ідзе, але ідзе настолькі млява, што не дапамагаюць нават тэледэбаты–ноу-хау тутэйшай выбарчай сістэмы. Хаця тэледэбатамі–гэта ўбоства можна назваць чыста ўмоўна. Хіба за пяць хвілінаў тэлеэфіру можна выкласці сваё бачанне сённяшняй сітуацыі, растлумачыць ролю парламенту і дэпутата. Хаця для некаторых прэтэндэнтаў і пяці хвілінаў замнога. За выключэннем асобных прадстаўнікоў ад апазіцыйных партый слухаць там няма каго. Як для нашага рэгіёну, дык гэта Леанід Аўтухоў прадстаўнік БНФ, які вылучыўся сваёй грамадзянскай пазіцыяй і напорам сапраўднага байца.

Выступы ж прыўладных кандыдатаў нагадвалі стаю дзятлаў, якія сваёй дзюбай выстукваюць адну і тую ж драўляную мелодыю, пазбаўленую полутаноў і вацыяльных нюансаў.

Хацеў бы вылучыць і яшчэ адну птушыную зграю: прадстаўнікоў ЛДПР–тутэйшых паслядоўнікаў Жырыноўскага. Кланаваныя Гайдукевічам чальцы партыі, нагадваюць алавяных салдацікаў, якім у большыні сваёй ад уласнага імя сказаць няма чаго, акрамя таго, што гэта самая вялікая на Беларусі партыя.

У сваёй бальшыні кандыдаты ў дэпутаты пазбаўлены элементарнага досведу публічнай камунікацыі альбо ўвогуле адмаўляюцца ад сваіх выступаў ці ўдзелу ў тэледэбатах.То бок у нашым грамадзтве адсутнічае сапраўдны дыялог паміж рознымі сацыяльнымі і палітычнымі часткам грамадзтва, адсутнічае сур’ёзнае абмеркаванне праблемаў, якія ёсьць у грамадзтве. Уся хада выбарчага працэсу сведчыць: улада штучна стрымлівае хоць які напал палітычнай барацьбы. Кампанія зусім не асвятляецца дзяржаўнымі мэдыямі. Можна сцвярджаць, што фактычна мы не маем паўнавартаснай палітычнай кампаніі, уплыў на грамадзтва гэтых выступаў мінімальны.

Як і савецкія людзі сённяшнія грамадзяне Беларусі прыйдуць на выбарчыя ўчасткі толькі таму, каб ня быць заўважанымі ў нелаяльнасці да ўлады.

З праведзеных улетку апытанняў НІСЭПД вынікае, што больш за палову грамадзянаў гатовыя ісьці на выбары, пэўна кажучы, што ня пойдуць галасаваць — прыкладна 20%, байкот як кампанію падтрымліваюць 14%. І разам з тым ладная частка апытаных не верыць, што выбары будуць справядлівымі, мяркуючы, што іх голас нічога ня значыць, што палата прадстаўнікоў, фігуральна кажучы, — пятае кола ў вазку беларускай ўлады. І часта — гэта тыя самыя людзі, якія кажуць, што пойдуць на выбары.

Узровень абыякавасці да сёлетніх выбараў зашкальвае, пах гэтага апатычнага стаўлення вісіць у паветры. Нават за саветамі “галасіць” ішлі з куды большым імпэтам. Адным словам, сумнае відовішча, змяняць якое аднак народ не збіраецца.

**Рэдактар**.

ВЫБАРЫ

## Віцебская друкарня «тармозіць» агітацыйную кампанію

**Двое дэмакратычных кандыдатаў, Алена Фаміна і Аляксей Гаўруцікаў, пяты дзень запар не могуць атрымаць з Віцебскай абласной друкарні замоўленыя ўлёткі. Надрукаваныя толькі каляровыя ўлёткі для нагляднай агітацыі. А чорна-белыя, прызначаныя для раздачы выбарцам, немагчыма атрымаць ужо каторы дзень.**

Спачатку ім сказалі, што ўсё будзе гатова 7-га верасня. Запрасілі прыйсці пасля абеду. Але аддалі толькі каляровыя ўлёткі. Астатняе паабяцалі зрабіць да ранку ў панядзелак. Потым патэлефанавалі: „Не, мы не ўпраўляемся, зайдзіце ўвечары“. Падвечар зноў тэлефануюць: „Не гатова, зайдзіце ў аўторак а 8-й раніцы“. Але і ў аўторак з раніцы не гатова, зайдзіце ў 11. Але і ў 11 нічога не гатова.

Затрымку кандыдаты, прыхільнікі Мікалая Статкевіча, лічаць невыпадковай.

11 верасня яны раздавалі запрашэнні на сустрэчы з выбарцамі. 12 верасня іх амаль тры: на дзвюх агітпляцоўках і ў сярэдняй школе № 45, прычым з удзелам нашых даверaных асобаў, Сяргея Парсюкевіча і Аляксандра Мілінкевіча. Менавіта падчас такіх сустрэчаў і неабходныя агітацыйныя ўлёткі — каб раздаваць іх людзям.

Агітацыйныя ўлёткі незалежных кандыдатаў толькі-толькі пачалі зьяўляцца ў Віцебску. Друкаваную ж прадукцыю ў падтрымку праўладных прэтэндэнтаў гараджане бачаць у вітрынах крамаў і ў дзяржаўных установах ужо з мінулага тыдня.

**Ян Сведка.**

ВЫБАРЫ

## У Віцебску адмянілі трансляцыю чарговай «сэрыі» тэледэбатаў

**Адменена трансляцыя тэледэбатаў кандыдатаў па Віцебскай - Кастрычніцкай акрузе № 20. Прычына — удзел Льва Марголіна, даверанай асобы сябра АГП Андрэя Разьнічэнкі.**

Справа ў тым, што намеснік старшыні АГП спадар Марголін сам балятуецца ў дэпутаты, а паводле апошняга рашэння ЦВК, даверaныя асобы ня маюць права браць удзел у дэбатах за кагосьці іншага, калі самі адначасова з’яўляюцца кандыдатамі.

Кандыдатам па Віцебскай-Кастрычніцкай акрузе № 20 прапанавана запісаць тэледэбаты паўторна 7 верасня.

У той самы дзень прапанавана перазапісацца і кандыдатам па Віцебскай-Горкаўскай акрузе № 17. Трансляцыю гэтых дэбатаў адмянілі 5 верасня, бо ўдзел у спрэчках у якасьці даверaнай асобы вылучэнца ад партыі БНФ Аляксандра Кузняцова браў кіраўнік партыі Аляксей Янукевіч.

Спадар Кузняцоў кажа, што гатовы ўзяць удзел у паўторных тэледэбатах самастойна. Андрэй Разьнічэнка яшчэ разважае: ці выступаць самому, ці звярнуцца да іншай даверaнай асобы.

**Ян Сведка.**

ЗВАРОТ КАНДЫДАТА

## СВАБОДУ ПАЛІТВЯЗНЯМ, А ГАЛАСЫ ЛІЧЫЦЬ РАЗАМ!

Шаноўныя грамадзяне, сябры!

Наша партыя БНФ абумоўлівала свой удзел у выбарнай кампаніі 2012 году двума умовамі: вызваленнем і рэабілітацыяй палітычных вязняў, а таксама сумесным падлікам галасоў праз уключэння нашых прадстаўнікоў у выбарчыя камісіі.

Выкананне гэтых умоў з’яўляецца карысцю для беларускага народу, але чыноўнікі рэжыму ўспрымаюць гэтыя умовы, як пагрозу для свайго бескантрольнага панавання.

Гэта з’яўляецца карысцю для народа, бо пры вызваленні палітвязняў з іх рэабілітацыяй, пры правядзенні чэснага падліку галасоў для Беларусі будзе адкрыта брама да прамых замежных інвестыцый, крэдытаў, якіх краіне катастрафічна не хапае для мадэрнізацыі эканомікі. А ў канчатковым варыянце – пад’ёму дабрабыту грамадзян, які абрынуўся ў тры разы ў выніку некампетэнтных, злачынных дзеянняў улады ў 2010-2011 гадах.

Толькі кіраўніцтва рэжыма не пайшло на крокі ў інтарэсах беларусаў, а працягвае трымаць за кратамі: кандыдата ў прэзідэнты Мікалая Статкевіча, прэтэндэнта на Нобелеўскую прэмію міра Алеся Бяляцкага, віцебскага патрыёта Сяргея Каваленку, моладзевага лідэра Зміцера Дашкевіча – усяго 15 чалавек. Таксама мясцовыя улады не ўключылі ніводнага прадстаўніка дэмакратычных кандыдатаў ва ўчастковыя камісіі.

Мы выкарысталі магчымасці звароту



да выбаршчыкаў пад час тэле- і радыё прамоў, звярнуліся да вас з праграмай са старонак раённых выданняў. Аднак рэжым не прадэманстраваў гатоўнасці вызваліць палітвязняў, правесці свабодныя выбары.

У гэтых умовах я падтрымліваю рашэнне Сойму БНФ аб зняцці кандыдатаў і заяўляю аб сваім зняцці з так званай выбарнай кампаніі ў Палату прадстаўнікоў па Віцебскай сельскай акрузе №21.

Мужным крокам для выбаршчыкаў будзе адмова ад удзелу ў галасаванні. Лепш займіцеся сваімі хатнімі справамі, схадзіце па грыбы 23 верасня. Але калі чыноўнікі прымусяць вас наведаць участак для галасавання, то прагаласуйце супраць усіх.

Мы будзем працягваць барацьбу, каб народ меў магчымасць абіраць уладу на свабодных, дэмакратычных выбарах. Слава героям! Жыве Беларусь!

***Леанід Аўтухоў,***
**кандыдат па Віцебскай сельскай акрузе №21.**

## АБ’ЯВА

- ***Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Покліч волі» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць, то таксама патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Рэдакцыя «Покліч волі» змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.***
- ***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты « Покліч волі ».***
- ***Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыякавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам.***

ВЫБАРЫ

# БАРЫС ХАМАЙДА АГІТУЕ ЗА БАЙКОТ

**У Віцебску першым вулічную перадвыбарчую агітацыйную кампанію распачаў беспартыйны апазыцыянер Барыс Хамайда.Спадар Хамайда выйшаў у цэнтар гораду, на вуліцу Леніна да так званага «сіняга дома» з плакатам «Незаконным выбарам у незаконную „палатку" — байкот!»**

Паводле актывіста, змест плаката яскрава адлюстроўвае сутнасць таго, што адбываецца:«Выбары незаконныя, бо няма прававога грунту, каб праводзіць іх законна. Канстытуцыя 1994 году прыпыненая, 1996 году — нелегітымная. Таму ў выніку гэтых «псэўдавыбараў» могуць быць абраныя толькі «псэўдадэпутаты».

Свае дзеянні актывіст лічыць абсалютна законнымі: калі ідзе агітацыйная кампанія, то агітаваць, на яго думку, закон дазваляе і «за», і «супраць», у тым ліку супраць удзелу ў выбарах увогуле.

Нейкі час першы агітацыйны пікет у цэнтры Віцебску не чапалі.

Але не доўга музыка гучала: 3 верасьня пікетоўшчыка затрымалі, пацягнулі ў суд і далі 400 тысяч штрафу за плякат „Незаконным выбарам у незаконную „палатку" — байкот!"

5 верасня міліцыянты прыехалі і загадалі апазіцыянеру сысці, бо ён нібыта замінае здымкам фільма пра Марка Шагала. Спадар барыс здзівіўся: ён на вуліцы Леніна, а кіно здымаюць на вуліцы Суворава, гэта метраў за 500, не меней.

6 верасня зранку міліцыя загадала сыходзіць ужо без аніякіх тлумачэньняў. Калі ён адмовіўся, яны, верагодна, загадалі „разабрацца" з ім дырэктарцы крамы, каля якой той стаіць. І яна справакавала скандал.

Паводле спадара Хамайды, загадчыца таксама спачатку загадала яму сыходзіць — маўляў, на гэтым месцы трэба паставіць стол і лаўкі для вулічнага гандлю. Тады актывіст перасунуўся са сваім бел-чырвонабелым парасонам крыху ўбок.

Загадчыцу гэта не задаволіла, і тая выбегла з крамы, схапіла бел-чырвона-белую стужку і хацела сарваць герб „Пагоня". Вядома, я схапіў яе за руку. Спадарыня выклікала міліцыю, на мяне склалі пратакол за хуліганства. Дарэчы, пратакол міліцыянты пісалі за сталом, які прынеслі з крамы і дэманстрацыйна паставілі ўпоперак ходнікаў. Ніякага гандлю тут наладжана не было. Гэта ўсё — толькі спробы наладзіць перашкоды.

Стол і лаўкі відавочна замінялі мінакам, але супрацоўнікаў міліцыі гэта не бянтэжыла. Яны сказалі, каб «хуліган», 64-гадовы Барыс Хамайда, чакаў позвы ў суд.

Інтэрнэт-матэрыялы апрацаваў

**Ян Сведка.**

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

# Асінка не народзіць апельсінкі

**У Дзень ведаў старшыня Віцебскага аблвыканкама Аляксандр Косінец наведаў кадэцкую вучэльню ў пас. Лужасна Віцебскага раёна. На ўрачыстым шыхтаванні чыноўнік звярнуўся да навучэнцаў з прамовай. Але гучалала яна напышліва і фальшыва.**

Выступоўца паведаміў, што мэтай стварэння такой навучальнай установы ёсць выхаванне высокамаральных людзей, патрыётаў сваёй Айчыны. Далей ён распавёў, што дэвіз кадэтаў «Жыццё – Радзіме, гонар – нікому» нібыта выходзіць з гісторыі славянскага ваярства, які з ягоных словаў раней гучаў як «Жыццё – Радзіме, сэрца – даме, вера – Богу, гонар – нікому». Ён адзначыў, што для кадэтаў створаны ўсе неабходныя ўмовы: добрая матэрыяльна-тэхнічная база, спартовыя аб'екты, выдатны фізкультурна-аздараўленчы комплекс. За што навучэнцы мусяць аддзячыць добрай падрыхтоўкай, высокім патрыятызмам, адданасцю Айчыне.

Як гэта бывае ў тутэйшых людзей, выхаваных у рускай культуры, за знешнім прываблівым і напышлівым антуражам хаваецца паўпраўда альбо наогул няпраўда. У дробных наўмысных ці не зусім памылках губляюцца сапраўдныя арыенціры і з'яўляюцца ўяўныя куміры і ідэалы. У сваім арыгінале лозунг расейскіх кадэтаў гучаў крыху інакш: "Душу–Богу, сердце–даме, жизнь –Государю, честь–никому". Мяркую, што калі капнуць глыбей, высветліцца, што й гэты кадэцкі дэвіз паходзіць найхутчэй з гісторыі еўрапейскага рыцарства. Выходзіць, за гэтымі недакладнасцямі зусім іншая рэальнасць, якую можна параўнаць са знаёмай нам сітуацыяй, калі за тэкстамі старых савецкіх гімнаў, прыстасаваных да новых рэаліяў–усё адно чуюцца старыя словы. Так і тут:" жизнь–Государю". Дый да славянства, думаю, не трэба прымазвацца–яно такое рознае слава богу і не вычэрпваецца аднымі расейцамі.

Чыноўнік адзначыў, што сёлета ў кадэцкай вучэльні будзе ў значнай ступені ўзмоцнена агульнаваíсковая падрыхтоўка, для гэтага пастаўлена задача хуткім часам пабудаваць самы сучасны пляц. Будзе перагледжана канцэпцыя будаўніцтва спальнага корпуса – ён павінен быць разлічаны на 300 месцаў, таму што прыём навучэнцаў трэба павялічваць. У абавязковым парадку будзе пабудаваны цір па самых сучасных патрабаваннях. Па меркаванні Аляксандра Косінца, кадэты павінны, як і суворавцы, добра ўмець страляць, скакаць з парашутам (для гэтага будзе пабудавана парашутная вышка), валодаць прыёмамі рукапашнага бою, таму варта абсталёўваць залу для адзінаборстваў. Іх трэба навучыць танчыць народныя танцы і абавязкова вальс, а таксама паводзіць сябе за сталом. У выхаваўчым плане варта шырока практыкаваць калектыўныя паходы ў тэатры, кіно, музеі – кадэты павінны добра ведаць сваю краіну, яе гісторыю. На вышэйшым узроўні павінна быць арганізавана свая мастацкая самадзейнасць. Ён пажадаў дзецям выдатных поспехаў у вучобе, дасягненняў у фізічнай падрыхтоўцы.

Я ніяк не мог зразумець, чаму гэты абласны чыноўнік столькі ўвагі надае кадэцкай вучэльні. Мо да вайсковых дзеянняў рыхтуецца, але, мяркую, усё проста: у Мінску–суворайцы, у Лужасна–кадэты. І ў мінскага галавы і ў віцебскага ёсць свае алавянныя салдацікі. І справа ў тым, што віцебскія салдацікі павінны быць больш алавянных, чым мінскія. Калі, канечне, атрымаецца. Ну, тыпу–гульня такая. Як кажуць, чым бы дзіцятка не цешылася абы не плакала.

Сёння ў кадэцкай вучэльні займаюцца 270 навучэнцаў, 90 адсоткаў дзяцей з сельскай мясцовасці, 45 адсоткаў – з малазабяспечаных сем'яў, 18 адсоткаў дзяцей-сірот. Па словах губернатара, іх трэба атачыць сямейным клопатам, увагай, але ў той жа час трэба не забываць пра патрабавальнасць і дысцыпліну. Адбор у вучэльню павінен праходзіць без усялякіх пратэкцый, асабліва па ведах і фізічнай падрыхтоўцы дзяцей.

Усё гэта, здавалася б, добра, але "грэх падмены" (Мікола Бярдзяеў) у рускай свядомасці (мова вызначае і свядомасць) выступае разбуральнай сілай, якая пераварочвае рэальнасць. Як вядома, першыя кадэцкія корпусы з'явіліся ў Прусіі ў 1653 г., калі вялікім курфюрстам была заснавана першая кадэцкая школа для нясення дваранскімі дзецьмі вайсковай службы. У 1716 г. кароль Фрыдрых Вільгельм І сфармаваў у Берліне роту кадэтаў, прызначыўшы яе шэфам свайго чатырохгадовага сына, будучага палкаводца Фрыдрыха Вялікага. Як мы бачым, галоўнай задачай курфюрста было фармаванне вайсковай эліты. І як бы крыўдна гэта не гучала для сучасных кадэтаў–вышэй прыведзеных лічбы сацыяльнага паходжання і матэрыяльнага стану, ну, ніяк не могуць быць на карысць паўстання з кадэтаў будучай беларускай вайсковай эліты. 3 выхаваных у рускай культуры, дэнацыялізаваных хлопцаў могуць сфармавацца толькі паслухмяныя прыслужнікі існага тут недэмакратычнага рэжыму. Мо ў гэтым і ёсць мэта дарослых дзядзек, якія апошнім часам па ўсёй краіне клануюць кадэцкія вучэльні ў аб'ёмах зусім не патрэбных такой невялікай і нейтральнай краіне , як Беларусь. А найхутчэй і зусім не патрэбныя тут, бо навошта адрываць дзяцей ад сям'і, пазбаўляць магчымасці самавызначыцца і ў 17-18 гадоў зрабіць усвядомлены выбар на карысць вайсковай прафесіі.

**Якаў Дрозд.**

КРЫМІНАЛ

# Гора-прадпрымальнікі

**Незаконная здабыча і гандаль свежым мясам абярнулася для траіх студэнтаў, якія вучацца ў сельскагаспадарчых навучальных установах Віцебшчыны не толькі выключэннем з ліку студэнтаў, але і абвінаваўчым прысудам.**

Увесну гэтага года зараз ужо былы студэнт ветакадеміі і экс-навучэнцы аграрнага каледжа вырашылі падзарабіць. Старанна спланаваўшы ўдзень, увечары пайшлі на справу. Схаваўшы аўтамабіль з прычэпам непадалёку ад фермы, пешкі накіраваліся праз поле да жывёлагадоўчага аб'екта. Пераканаўшыся, што вартаўнічая ахова адсутнічае, будучыя ветэрынары нагледзелі траіх укормленых цялятаў…

Ад'ехаўшы ў зацішнае месца, жывёл пусцілі пад нож.

На справу маладыя людзі ішлі загадзя падрыхтаванымі, пра што сведчыць і той факт, што прылада забойства было пад рукой. Здабычу пакінулі на закінутай ферме, а самі пачалі вырашаць, каму прадаць убоіну. Назаўтра "гора прадпрымальнікі" стэлефанаваліся са знаёмым мужчынам, якому і прапанавалі купіць свежае мяса, альбо дапамагчы яго прадаць. Апошняга выгодная прапанова зацікавіла, і ён хутка дамовіўся пра сустрэчу з патэнцыйным пакупнікам(прадаўцом са стажам, якая гандлявала свежым мясам на адным з рынкаў абласнога цэнтра).

Жанчына пацікавілася ў пастаўшчыкоў, адкуль свежаніна. І тыя патлумачылі, што выгадавалі жывёлін самі, так бы мовіць, юныя фермеры. Як дасведчаны ў такіх справах чалавек, закупшчыца запатрабавала даведкі на мясную прадукцыю, хлопцы запэўнілі, што прывязуць пазней. Разлічыліся на месцы: 6700000 рублёў адмысловцы-аграрнікі падзялілі на траіх і адправіліся дадому. Праўда, праз некалькі дзён яны сустрэліся ўсё з той жа закупшчыцай… каб рэалізаваць пакінутае мяса.

І так сталася, што не толькі радасць была адна на ўсіх, але і бяда: прысудам суда Віцебскага раёна за крадзеж, здзейснены групай асобаў у буйным памеры, адзін студэнт прысуджаны да двух гадоў і шасці месяцаў пазбаўлення волі без канфіскацыі маёмасці, два іншыя– да двух гадоў пазбаўлення волі без канфіскацыі маёмасці, пры гэтым кожнаму прызначана адтэрміноўка выканання пакарання на два гады і шэсць месяцаў.

**Ян Сведка.**

# Прызнаны вінаватым

**Суд прысудзіў экс-намесніка старшыні Віцебскага аблвыканкама Леаніда Кавалёва да шасці гадоў турмы.Прысуд па яго справе быў абвешчаны Менскім гарадскім судом.**

Леаніда Кавалёва прысудзілі да сямі гадоў пазбаўлення волі ў выпраўленчай калоніі ва ўмовах узмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці і пазбаўленнем права займаць пасады, злучаныя з выкананнем арганізацыйна-распарадчых і адміністрацыйна-гаспадарчых абавязкаў тэрмінам на пяць гадоў. Пры гэтым у сувязі з амністыяй Кавалёву паменшаны тэрмін адбывання пакарання на адзін год.

Суд прызнаў яго вінаватым па ч.3 ст.430 (атрыманне хабару ў асоба буйным памеры) УК Беларусі.

Нагадаем, экс-намесніка старшыні Віцебскага аблвыканкама Леаніда Кавалёва затрымалі каля года назад.

Нагадаем, што інфармацыя пра магчымае затрыманне намесніка старшыні Віцебскага аблвыканкама Леаніда Кавалёва за атрыманне хабару ўпершыню з'явілася яшчэ ўлетку 2011 года. Афіцыйна ніводнае сілавое ведамства гэта не пацвердзіла. Ад незалежных журналістаў хавалі інфармацыю пра дату і месцы разгляду справы службоўца.

Варта адзначыць, што на гэтай пасадзе Ковалев паспеў папрацаваць толькі паўтара гады. Да гэтага ў 2009 году ён прабыў некалькі месяцаў у ролі намесніка старшыні Віцебскага гарвыканкама, куды быў пераведзены з паста начальніка кіравання справамі Менскага аблвыканкама.

Аднак сваю вядомасць выхадзец Баранавіцкага раёна атрымаў, ў 2005-2008 гг. працуючы першым і другім сакратаром ЦК ГА БРСМ. Да гэтага за плячыма Кавалёва ўжо была праца старшынём калгасу ім. Кірава Баранавіцкага раёна (1999-2003) і першым намеснікам старшыні Брэсцкага райвыканкама (2004-2005).

**Ян Сведка.**

ГАНЬБА

# Гонар нацыі– за кратамі

**У віцебскім следчым ізалятары № 2 за лідарам міжнароднай арганізацыі «Малады фронт» (Чэхія) Дзмітром Дашкевічам устанавілі кругласутачнае назіранне. Пра гэта паведаміла намеснік старшыні арганізацыі Анастасія Палажанка.**

Паводле яе слоў, 5верасня яна разам з адвакатам Дашкевіча наведала СІЗА № 2. «Мяне да Дашкевіча, відома, не пусцілі, з ім сустракаўся яго адвакат», — адзначыла Палажанка.

«Я ведаю, што ён знаходзіцца там пад стопрацэнтным назіраненнем круглыя суткі. Ён сядзіць у адзіночнай камеры, і калі ён робіць штосьці не тое з пункту гледжання тых, хто яго ахоўвае, то яму па гучнай сувязі па радыё кажуць: «Дашкевіч, не рабі гэтага», — паведаміла Палажанка.

«Са слоў адваката, для яго гэты этап, дзякуй Богу, прайшоў не так кепска, як мінулы. Мінулы этап у Віцебск быў жудасны: звязаны са многімі правакацыямі, з выкарыстаннем розных брудных прыёмаў, таму мы вельмі за Дашкевіча непакоіліся», —сказала Палажанка.

Яна паведаміла, што Дашкевіч выглядае бадзёра і паводзіць сябе весела.

«Адзінае, што кепска, — гэта невядомасць. Нам не даюць ніякай інфармацыі аб тым, колькі Дашкевіч будзе знаходзіцца ў віцебскім СІЗА, калі і куды потым ён будзе пераведзены», — заявіла Палажанка.

28 жніўня Глыбоцкі раённы суд на закрытым выязным пасяджэнні ў калоніі № 13 райцэнтра прызнаў Дашкевіча вінаватым у «злосным непадпарадкаванні патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы» (ч. 1 арт. 411 Крымінальнага кодэкса) і прыгаварыў яго да года пазбаўлення волі. У тэрмін пакарання ўключаны чатыры месяцы, якія апазіцыянеру заставалася адбыць у калоніі па першай крымінальнай справе.

У калоніі Глыбокага лідар арганізацыі адбываў пакаранне па крымінальнай справе, распачатай у канцы 2010 года. Напярэдадні апошніх выбараў прэзідэнта, 18 снежня 2010 года, Дашкевіча і яго таварыша па «Маладым фронце» Эдуарда Лобава затрымалі ў Мінску па абвінавачванні ў збіванні двух мужчын. У сакавіку 2011 года Дашкевіч быў прыгавораны да двух гадоў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму. Прадстаўнікі апазіцыі і праваабаронцы расцанілі арышт Дашкевіча і Лобава, прыгаворанага да чатырох гадоў пазбаўлення волі, як прэвентыўную меру па «зачыстцы» актывістаў напярэдадні выбараў. Міжнародныя праваабарончыя арганізацыі прызналі Дашкевіча і Лобава палітычнымі зняволенымі.

**" Радыё Свабода".**

НАШЫ ЧЫНОЎНІКІ

# …ИХ СТАБИЛЬНОСТЬ

ПОКА ТОЛПЫ ЖЕЛАЮЩИХ СТАТЬ ДЕПУТАТАМИ ОБЕЩАЮТ НАМ, ПОЛУЧИВ МАНДАТ, БЕЗЗАВЕТНО БОРОТЬСЯ ЗА ИНТЕРЕСЫ ЛЮДЕЙ, ВЛАСТЬ ПОДГОТОВИЛА ДЛЯ НОВОГО «ПАРЛАМЕНТА» ТЕСТ НА ВЕРНОСТЬ ПРАВЯЩЕМУ КЛАНУ.

В Палату представителей в начале сентября поступила на утверждение новая редакция закона о государственных пособиях семьям, воспитывающим детей. Законопроект подготовлен в духе неизменной заботы государства о том, чтобы люди со своими проблемами не мешали реализации грандиозных планов действующей власти.

В частности, предлагается упразднить надбавки к пособиям, которые получали матери-одиночки, и отменить выплату пособий на детей старше трех лет, хотя они и раньше назначались только малообеспеченным семьям.

Давнее обещание привязать размер пособия по уходу за ребенком к средней зарплате по стране, что преподносилось как революция, на деле существенно не улучшит материальное положение молодых семей. Потому что это звучало красиво -- «привязать к средней зарплате». Но если речь идет всего-то о 35% этого самого заработка, да еще и не для всех и из расчета за предыдущий квартал, то актуальным остается вопрос: «Как прожить?»

Ну а теперь вопрос к кандидатам от власти, которые дружно рассказывают, что они -- в отличие от представителей оппозиции -- не болтуны, а люди дела. Кто из вас осмелится проголосовать против этого закона?

Вопрос к действующим «депутатам», которые желают продлить свои полномочия и баллотируются на новый срок. Кто из вас осмелился сообщить своим избирателям, что одним из первых законов нового «парламента» станет решение отобрать повышенные пособия на детей у матерей-одиночек?

Уверена, что никто не осмелился. А когда дойдет дело до голосования, то дружно нажмут кнопочки «за» и еще сделают нас всех идиотами: мол, как люди ответственные они, депутаты, голосуют за экономию государственных средств, а критики из оппозиции просто своими злобными нападками хотят дестабилизировать ситуацию в стране.

У нас ведь так: если у матерей-одиночек деньги отобрать, на детях сэкономить, то тут решительности и государственной воли достаточно. А когда недавно стало известно, что на машину для председателя Ельского райисполкома местный бюджет готов выложить более 70 тысяч долларов, то никто и не вспомнил о необходимости экономить, никто и не подумал возмутиться. Оказывается, это вполне скромно и по статусу. Потому что приоритеты государственного управления много лет стабильны: не власть для народа, а народ для власти.

Уже сейчас понятно, что каждый пятый будущий депутат Палаты представителей будет выходцем из обл- или райисполкомов. Лично изъявили желание перед пенсией получить депутатский мандат и право на повышенную пенсию девять председателей райисполкомов: Барановичского, Пружанского, Лепельского, Оршанского, Шарковщинского, Речицкого, Жлобинского, Щучинского, Клецкого. Если вспомнить, что в парламенте всего 110 мест, то это немало. А ведь помимо председателей в депутаты баллотируются их замы, начальники управлений, отделов, иных исполкомовских структур. Вот и получается: каждый пятый (если не больше) депутат окажется бывшим вертикальщиком.

Разумеется, свои кабинеты эти люди оставляют не потому, что намерены добиваться серьезных перемен. Не потому, что они вдруг прозрели и осознали… Не потому, что они вдруг увидели, что система управления, к созданию и функционированию которой они приложили руку, завела в тупик, не позволяет государству Республика Беларусь развиваться.

Сделав ставку на «сильную власть», основанную на личной преданности правящему режиму и не зависящую от мнения избирателей, мы выпестовали уродца: чиновники уже не умещаются в старых зданиях, им требуются все новые и новые кабинеты, а люди активные, молодежь просто уезжают из Беларуси, потому что не видят здесь для себя никаких перспектив. Чиновники своих детей тоже всеми правдами и неправдами отправляют за границу: если не на учебу и постоянное место жительства, то хотя бы на работу в посольства.

Потому что надо быть извращенного ума циником, чтобы не понимать, что вся Европа живет лучше и богаче нас. У нас построено государство, в котором не хотят жить наши дети. У нас построено государство, в котором люди, всю жизнь отработавшие от зари до зари, боятся голодной старости.

У нас построено государство, от которого мы все время ждем какой-нибудь подлости и обмана. Но, я уверена, все эти предрайисполкомов, их замы и идеологи сейчас идут в депутаты именно для того, чтобы ситуация не менялась, чтобы все сохранялось так, как есть. Это и есть их пресловутая стабильность -- чтобы отобрать детское пособие и впредь было можно, а переизбрать слугу народа, который по нищему району не стесняется разъезжать в супердорогом авто, никак нельзя.

Я не пойду на эти «выборы». Мне такая стабильность не нужна.

**Светлана Калинкина, «Народная воля».**

КУХАРКА В УГАРЕ

## КАК ПРЕЗИДЕНТСКАЯ КУХАРКА УПРАВЛЯЕТ ГОСУДАРСТВОМ

З ВЫСТУПУ КАНДЫДАТА Ў ДЭПУТАТЫ ПАРЛАМЕНТА УЛ.ПАДГОЛА ПА РАДЫЁ "СТАЛІЦА" 7 ВЕРАСЬНЯ 2012 Г.

"ГЭТА ПАРЛАМЕНСКАЯ КАМПАНІЯ – ПЕРШЫ ЭТАП ВЫБАРАЎ ПРЭЗЫДЭНТА. … МЫ МУСІМ ВЫЙСЬЦІ З УСІХ САЮЗАЎ З РАСІЯЙ І ЎСТАЛЯВАЦЬ ДЭМАКРАТЫЮ… А.ЛУКАШЭНКА СКАЗАЎ, ШТО ХОЧА БУДАВАЦЬ З НАШАЙ КРАІНЫ АГУЛЬНЫ ДОМ З РАСІЯЙ. ГЭТА ІНТЭРНАТ ЦІ, ПА-РУСКУ – "ОБЩЕЖИТИЕ". Я СУПРАЦЬ. БЕЛАРУСЬ – НАШ ДОМ... ТРЭБА ЎСТАЛЯВАЦЬ МЯЖУ З РАСІЯЙ, І МЫ СТАНЕМ ЖЫЦЬ БЯСЬПЕЧНА, ЯК ЖЫВУЦЬ ЛЮДЗІ Ў ЭЎРОПЕ. А З ЭЗ ТРЭБА ЎВЕСЬЦІ БЯЗВІЗАВЫ РЭЖЫМ".

БТ 9 сентября 2012. Председатель ЦИК Л.Ермошина: «Большинство кандидатов ничего не говорит о нуждах избирательного округа. Они абсолютно не доводят до избирателей те небольшие дела, которые они будут стремиться сделать, находясь в парламенте для жителей небольших городов, для районов, вообще областных центров. Ну, и для отдельных округов города Минска. Это насущные интересы граждан и это волнует их более всего. Такое ощущение, когда слушаешь некоторых, что мы участвуем в выборах президента. Вплоть до того, что глобальные проблемы вплоть до того международных отношений с крупными странами. Я хотела бы приблизить кандидатов, прежде всего к народу. Быть проще. Люди к ним потянутся и это будет тот самый успех на выборах, к которому они стремятся».

С сайта парламента Республики Беларусь: функции Палаты представителей:

- рассмотрение проектов законов
- назначение выборов Президента
- одобрение кандидатов, назначаемых Президентом на пост Премьер-министра
- оценка работы правительства
- инициация вотумов недоверия, если это необходимо

**http://www.belarus.by/ru/government/parliament**

НАША ГІСТОРЫЯ

# ВАЙСКОВАЯ СЛАВА І БЯССЛАЎЕ ГІСТОРЫКАЎ

**8 ВЕРАСНЯ — ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЙ ВАЙСКОВАЙ СЛАВЫ. ВІНШУЕМ УСІХ АБАРОНЦАЎ АЙЧЫНЫ!**

8 верасня 1514 года нашы продкі перамаглі ў адной з самых слаўных бітваў — пад Оршай. На пачатку 90-х у гэты дзень вайскоўцы прымалі ўрачыстую прысягу на вернасць Беларусі. За Лукашэнкам свята стала нефармальным, а нават пераследаваным.

З нагоды свята перадрукоўваем класічны артыкул нашага выдатнага гісторыка Генадзя Сагановіча «Вайсковая слава і бясслаўе гісторыкаў».

У нашай даўняй гісторыі няма іншай падзеі, якая б стала падобным сімвалам і выклікала столькі ж вострых баталій, як бітва пад Воршай. Гэта вялікая перамога над намнога большым маскоўскім войскам, здабытая ў абарончай вайне, на сваіх землях і сваёй жа арміяй, кіраванай сваім (праваслаўным!) гетманам.

Пачынальнікі беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі бачылі ў ёй лепшы доказ гістарычнай нятоеснасці беларусаў і вялікарусаў. А для гісторыкаў расейскіх, наадварот, яна была ці не самай «нязручнай» падзеяй, што ніяк не ўпісвалася ў канцэпцыю «адзінага славянарасійскага народу».

Вось жа стаўленне да гэтай бітвы ў самой Беларусі і вызначалася змаганнем расійскага бачання з беларускім. Пасля разгрому «нацдэмаўскай» гістарыяграфіі і ўсталявання савецкай гістарычнай дактрыны Ворша была табуяванай тэмай, — да абвяшчэння дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі.

Толькі тады «забытая» сеча вярнулася ў падручнікі, была ацэненая як «вялікая перамога» ваяроў, што «баранілі незалежнасць сваёй дзяржавы, свае хаты і сем'і». У першай палове 1990-х гадоў, пры хоць якой дэмакратыі, пра Аршанскую бітву ў нас пісалася болей, чым пра якую іншую падзею айчыннай гісторыі. І штогод колькасць публікацыяў пра яе ў перыёдыцы падвойвалася!

З прыходам А. Лукашэнкі ды яго курсам на рэінтэграцыю з Расіяй стаўленне да бітвы дыяметральна змянілася. Мясцовыя адэпты «трыадзінарускасці» зноў узяліся цвердзіць, быццам бітва пад Воршай не вартая і памяці, бо была… «братазабойчай». Трашчанок так і піша: войны Масквы супраць ВКЛ «нельга прадстаўляць як беларуска-рускія сутыкненні, у якіх рускі бок быў агрэсарам», гэта — «зламысная фальсіфікацыя!» Дык кім жа тады быў «рускі бок» у распачатых ім жа войнах?

Для цяперашніх трубадураў «Вялікай Расіі», як і для іх ідэйных айцоў з XIX ст., межы «рускага» народа вызначала праваслаўе, таму, маўляў, агрэсія Масквы супраць Вялікага Княства была справядлівай барацьбой за «ўз'яднанне» зямель Русі ў адной дзяржаве.

Але акурат Аршанская бітва і бурыць падобны тэзіс пра праваслаўе як падставу таго «адзінства» ды справядлівы характар войнаў «за ўз'яднанне». Бось жа ў XVI ст. для нашых продкаў было натуральным не толькі помніць пра перамогу пад Воршай, але і ганарыцца ёю. Праваслаўны летапісец дзякаваў гетману Астрожскаму за тое, што яго стараннямі «маскоўскага ворага пабілі», і ставіў маскавітаў у адзін шэраг з бусурманамі.

У эпоху жорсткага супрацьстаяння з Масквою сечу 1514 году часта згадвалі ў гераічным кантэксце, называючы «вялікай бітвай Аршанскай». Падзея, якая ўжо тады набыла сімвалічнае значэнне, вартая таго, каб быць ключавым топасам беларускага нацыянальнага наратыву. Таму эпігоны заходнерусізму і стараюцца любым чынам затушаваць ці маргіналізаваць яе. То цвердзяць, быццам армію Астрожскага складала толькі польская і літоўская шляхта, а беларусы калі і былі, дык «паднявольныя», то што бітва не мела аніякага значэння…

Ніхто не скажа дакладна, якую частку пераможнага войска складалі вершнікі з Беларусі, але гэта не мае прынцыповага значэння. Прынцыповы факт масавага ўдзелу ў бітве праваслаўнай беларускай шляхты (а пад Воршу прыйшло паспалітае рушанне з усіх земляў ВКЛ!) і тое рэха, якое яна выклікала ў тагачаснай Беларусі. Шляхта ж (а яна па вызначэнні не бывала «паднявольнай») незалежна ад этнічнага паходжання лічыла ВКЛ сваёй дзяржавай і бараніла, бо дарожыла яго палітычным ладам.

Што ж да значэння, то хоць перамога і не стала вырашальнай у вайне, яна спыніла маштабны наступ маскоўскай арміі ўглыб краю і дапамагла вызваліць гарады Ўсходняй Беларусі, а ў далейшым — і паспрыяла развалу небяспечнага ваеннага альянсу Масквы з імперыяй Габсбургаў, які пагражаў існаванню ВКЛ.

Так што пафасныя словы падручніка пра абарону суверэнітэту зусім не беспадстаўныя. Менавіта бітве пад Воршай выпала асаблівая роля ў фармаванні сучаснай беларускай тоеснасці. Ніводная іншая падзея не выклікае такога канфлікту ідэнтычнасцяў — беларускай і расійскай. У стаўленні да яе і выяўляецца, хто кім сябе ідэнтыфікуе. Для адных гэта «святая бітва за Бацькаўшчыну», для другіх — «эпізод унутрырускай міжусобіцы». І звесці іх немагчыма.

**Генадзь Сагановіч, газета «Свабода» (2008).**

СПАРТЫЎНЫ СКАНДАЛ

# ГАСТРОЛІ ТЭАТРА АБСУРДУ Ў МАНЕЖЫ ДЛЯ ШТУРХАННЯ ЯДРА

ДЫРЭКТАР НАЦЫЯНАЛЬНАГА АНТЫДОПІНГАВАГА АГЕНЦТВА СЦВЯРДЖАЕ, ШТО ДОПІНГ У ЕЖУ НАДЗЕІ АСТАПЧУК ПАДСЫПАЎ ЯЕ ТРЭНЕР. НАСТАЎНІК, У СВАЮ ЧАРГУ, АБВЯЦАЕ ЗМЯНІЦЬ ПРОЗВІШЧА ЯФІМАЎ НА ІДЫЁТ. САМА АСТАПЧУК НАЗЫВАЕ ЎСЁ ГЭТА ТРЫЗНЕННЕМ.

Нагадаем, што 5 жніўня Надзея Астапчук заняла на Алімпіядзе першае месца, штурхнуўшы ядро на 21 метр 36 сантыметраў. Але ўжо 13 жніўня стала вядома, што ў спробе беларускай лёгкаатлеткі выяўлены допінг. У выніку Міжнародны алімпійскі камітэт пазбавіў Астапчук статусу алімпійскай чэмпіёнкі, а ў Мінску пачалося разбіральніцтва, як забароненыя прэпараты патрапілі ў арганізм спартсменкі.

**«Асцерагаючыся за недастаткова высокі вынік перад Гульнямі, ён дадаў у ежу спартсменкі забароненае рэчыва»**

Праз месяц дырэктар Нацыянальнага антыдопінгавага агенцтва Аляксандр Ванхадла на прэс-канферэнцыі апублікаваў вынікі расследавання (цытуецца па TUT.BY):

Было вызначана і атрымана прызнанне трэнера Астапчук Аляксандра Яфімава аб тым, што 30 ліпеня пасля здачы апошняга допінг-кантролю, асцерагаючыся за недастаткова высокі вынік перад Гульнямі, ён дадаў у ежу спартсменкі забароненае рэчыва.

Выканкам Беларускай федэрацыі лёгкай атлетыкі сумесна з дысцыплінарнай антыдопінгавай камісіяй нашага агенцтва прыняў наступныя рашэнні: «Улічваючы вынікі расследавання, тлумачэння спартсменкі, прызнання трэнера, згодна з палажэннямі Сусветнага антыдопінгавага кодэкса і антыдопінгавых правілаў Міжнароднай федэрацыі лёгкай атлетыкі дыскваліфікаваць трэнера Астапчук Аляксандра Яфімава на 4 гады. Улічваючы абставіны таго, што адбылося, поўнага няведання Астапчук аб тым, што яна прымала забароненыя рэчывы, мы палічылі сітуацыю выключнай (ёсць такое палажэнне ў кодэксе), а таксама адказнасць за знаходжанне забароненага рэчыва ў арганізме спартсменкі, прынялі рашэнне аб дыскваліфікацыі Астапчук на 1 год «.

Дадзенае рашэнне аформлена і накіравана ў Міжнародную федэрацыю лёгкай атлетыкі. Менавіта гэтая арганізацыя прыме канчатковае рашэнне па факце парушэння.

**«Я змяню прозвішча, Яфімаў на Ідыёта»**

У той жа дзень Аляксандр Яфімаў заявіў «Еўрарадыё»:

- Не чытайце ў інтэрнэце і не глядзіце газет! Але я пакуль ад каментароў устрымаюся.

- Аляксандр Мікалаевіч, напісалі, што вы сказалі, вы прызналіся ...

- Ага ... (саркастычным тонам. - Еўрарадыё)

- ... не быў упэўнены ў выніку, таму падсыпаў.

- Я змяню прозвішча, Яфімаў на Ідыёта. Больш пакуль каментаваць не буду.

- Вы адмаўляеце, што самі падсыпалі допінг? Гэта няпраўду напісалі?

- Я ж не кажу, што адмаўляю. Я кажу, што проста змяню прозвішча. А больш пакуль каментаваць не буду. Вось дачакаемся рашэння Міжнароднай федэрацыі, а потым будзем каментаваць. Потым я скажу, што я казаў, а што я не казаў ...

**«Чалавек мне маці замяніў пасля яе смерці»**

У той жа дзень Надзея Астапчук пракаментавала новы паварот падзей у гутарцы з Goals.By:

- Не веру ва ўсё гэта. Я ехала ў Менск і толькі тады даведалася. Ведаю сітуацыю толькі па тым, што напісана ў прэсе. Гэта проста жах нейкі. А трызненне я каментаваць не хачу.

- Не верыце, што такое магло адбыцца?

- Як можна ў гэта верыць? Чалавек мне маці замяніў пасля яе смерці. Усе гэтыя фармулёўкі смешныя. Не веру, што ён гэта мог зрабіць. Гэта нейкі абсурд поўны.

- Не размаўлялі яшчэ з Аляксандрам Мікалаевічам?

- Не, мяне гэтая навіна заспела ў дарозе. Ехала ніякая наогул.

- У прынцыпе, верыце, што трэнера маглі проста прымусіць зрабіць такое прызнанне?

- Трэба разбірацца. Прайшоў нейкі расследаванне без мяне, знайшлі або прызначылі вінаватага, вырашылі за мяне, што я спорт пакінула. Для мяне сёння адкрылася шмат дзіўных рэчаў.

- Вашы далейшыя дзеянні?

- Для пачатку хачу з трэнерам убачыцца. Праўда, пакуль не магу да яго нават датэлефанавацца. Усё гэта ў галаве не ўкладваецца. Што далей будзе, пакуль не ведаю.

**Лухта для міжнароднай федэрацыі лёгкай атлетыкі**

Ад гэтай гісторыі застаецца адчуванне катастрафічна дрэнна зрэжысаванага спектакля, сэнс якога складаўся ў тым, каб выклапатаць спартсменцы мінімальную дыскваліфікацыю. Але для гэтага трэба было знайсці «ахвярнага казла», які возьме усё на сябе і скажа, што сама Астапчук ведаць не ведала, што прымае допінг.

Як Яфімава вымусілі зрабіць «добраахвотнае прызнанне», можна толькі здагадвацца. Трэнер Астапчук, вядома, не анёл. Але і не ідыёт. Менавіта таму ён не мог падсыпаць сваёй падапечнай прэпарат, які выявіла антыдопінгавая лабараторыя.

Каб даказаць гэта, дастаткова звярнуцца да слоў, сказаным Аляксандрам Ванхадла жніўня 13 «Прессболу»:

- Дзіўна, што 30 ліпеня спартсменка нармальна прайшла кантроль, а ўжо 4 жніўня - няма ... Дысцыплінарная камісія выказала меркаванне, што яна магла прыняць прэпарат у прамежак з 30 ліпеня па 4 жніўня. Але я не бачу сэнсу ў аднакратным прыёме прымабалана, які знайшлі, так як гэта не той прэпарат, які дасць перавагу пры аднаразовым прыёме, ён не паспее падзейнічаць.

Яфімаў, які прапрацаваў шмат гадоў у вялікім спорце, не мог не ведаць гэтага. Таму, калі б ён, «асцерагаючыся за недастаткова высокі вынік», падсыпаў Астапчук у ежу забаронены прэпарат, то відавочна нейкай іншай, хуткадзейны і эфектыўны.

Увогуле, справа шытая ня белымі ніткамі - лінамі. Гэта відавочна нават неадмысловцу. Можна ўявіць сабе, якое ўражанне гэтая лухта зробіць на Міжнародную федэрацыю лёгкай атлетыкі, куды нашы дзеячы ўжо адправілі вынікі «расследавання». 3 прычыны такога фінта імідж Беларусі можа пацярпець куды мацней, чым ад факту выяўлення допінгу ў алімпійскай чэмпіёнкі ...

**Ігар Патапчук, «Салідарнасць».**

ФІНАНСАВАЯ ПРАБЛЕМА

# АБВАЛ САЛЬДА

САЛЬДА ЗНЕШНЯГА ГАНДЛЮ ТАВАРАМІ Ў ЛІПЕНІ ЗМЕНШЫЛАСЯ Ў 18 РАЗОЎ ПАСЛЯ ПРЫПЫНЕННЯ СХЕМАЎ ЭКСПАРТУ РАСТВАРАЛЬНІКАЎ І РАЗБАВІЦЕЛЯЎ.

Сальда знешняга гандлю таварамі ў ліпені склала ўсяго $23,2 млн, знізіўшыся ў параўнанні з чэрвенем прыкладна у 18,5 разу. Такія звесткі ўтрымліваюцца ў прэс-рэлізе Белстата аб гандлёвым балансе Беларусі ў студзені — ліпені 2012 года.

Згодна са свежымі звесткамі ведамства, аб'ём экспарту тавараў у ліпені 2012 знізіўся на $266,9 млн — да $ 3,95 млрд з $ 4,22 млрд месяцам раней. У той жа час імпарт тавараў вырас на $140,7 млн — з $3,79 млрд у чэрвені да $ 3,930 млрд у ліпені.

Усё гэта прывяло да абвальнага падзення станоўчага сальда знешняга гандлю таварамі да $ 23,2 млн з $430,8 млн месяцам раней.

Тое, што адбылося можна растлумачыць прыкрыццём схемы экспарту растваральнікаў і змазачных матэрыялаў з расійскай нафты без выплаты экспартнай пошліны ў расійскі бюджэт.

Таксама неабходна ўлічваць, што ў ліпені яшчэ часткова ажыццяўляліся пастаўкі расійскай сыравіны для вытворчасці растваральнікаў і разбавіцеляў. У жніўні ж такія пастаўкі былі цалкам заблакаваныя, што яшчэ больш адаб'ецца на звестках па знешнегандлёвым сальда Беларусі за гэты месяц

**dengi.onliner.by**

ПРАМОВА КАНДЫДАТА

# ХОПІЦЬ ЖЫЦЬ ПА-ЖАБРАЦКУ Ў "ОБЩЕЖИТИЯХ"!

Паважаныя грамадзяне, сябры!

Гэта парламенская кампанія – першы этап выбараў прэзыдэнта.

Я перакананы, што беларусы, якія перамаглі гітлераўскі фашызм, мусяць і могуць жыць лепш, чым жывуць сёньня немцы. Нашы бацькі і дзеды знайшлі волю і сілы, каб разграміць войскі дыктатара, а мы мусім дамагчыся самага лепшага жыцьця ў сьвеце для нашых дзетак і ўнукаў. Ёсьць хто супроць? Усе ЗА!

Чаму ж мы жывем горш за немцаў, горш за літоўцаў, палякаў, эстонцаў ды другіх эўрапейцаў? Адказ просты. Сёньня Беларусьсю кіруюць з Крамля. Масква бачыць нас сваёй губерніяй. Мы мелі свае мыты-пошліны на легкавыя аўто, але як толькі нас завялі ў мытны хаўрус з Расіяй, нам іх значна падвысілі. Мы ў БНФ лічым, што трэба неадкладна адмяніць пошліны на легкавыя аўтамабілі. Кожны ў Беларусі мусіць мець мажлівасьць набыць аўто эўрапескага ці амерыканскага вырабу.

Мы дажыліся да таго, што ў Польшчы пенсія складае 500 эўра, а заробак – 1 000, у Беларусі ж – у 3-5 разы менш. А цэны ў палякаў ды літоўцаў на ежу, вопратку ды пральныя сродкі ў разы меншая за нашыя. Калі станем еўрапейскай краінай, тады будзем жыць значна лепш.

Мы мусім выйсьці з усіх саюзаў з Расіяй і ўсталяваць дэмакратыю. Гэта перадумова праграмы Маршала-3. Мы можам атрымаць сотні мільярдаў даляраў крэдытаў ад ЭЗ і ЗША, калі захочам жыць як у цывілізаваным сьвеце. Колісь немцам, якія пазбавіліся ад Гітлера, дапамаглі стаць адной з самых багатых краінаў сьвету. Потым дапамаглі Грэцыі. Зараз настае наша чарга стаць эўрапейскай краінай, а не губерніяй Расіі. Але грошы дадуць толькі пад рэформы ад дыктатуры да дэмакратыі. Пад увядзеньне прыватнай уласнасьці, ў тым ліку на зямлю.

А.Лукашэнка сказаў, што хоча будаваць з нашай краіны агульны дом з Расіяй. Гэта інтэрнат ці, па-руску – "общежитие". Я супраць. Беларусь – наш Дом. Уладзімір Караткевіч казаў, што Беларусь – наш Дом, наш Храм. І я ўпэўнены, што амаль усе жыхары нашай краіны хочуць будаваць у нас Эўрапейскі Дом з бел-чырвона-белым сьцягам на даху, а не эўразійскае "общежитие". Мы ўсе робім у кватэры эўрарамонт, і ніхто – эўразійскі.

Скажыце, дзе вы бачылі дом, у якога тры сьцяны ёсьць, а чацьвёртай няма? Дзе вы бачылі, каб у доме без сьцяны жылі людзі? Мы так жывем у Беларусі, бо ня маем мяжы з Расіяй. І да нас з Расіі прэцца ўвесь крымінал, наркотыкі. Трэба ўсталяваць мяжу з Расіяй, і мы станем жыць бясьпечна, як жывуць людзі ў Эўропе. А з ЭЗ трэба ўвесьці бязвізавы рэжым.

Я лічу, што кожная сям'я мусіць мець сваю кватэру ці дом, а таксама дачу. Хопіць жыць па-жабрацку ў "общежитиях"!

Большасьць прадстаўнікоў, якіх мы накіравалі ў выбарчыя камісіі, чыноўнікі не дапусьцілі, адсеялі. А зараз вашы галасы могуць прыпісваць тым, хто будзе ціхенька падтрымліваць рост цэнаў, коштаў на жытло, пагаршэньне жыцьця. Менавіта так адбылося пасьля прэзыдэнцкіх выбараў–2010, калі вы страцілі вялікія грошы ў ашчадбанках. Калі цэны сягнулі касмічных высот і сталі нашымі спадарожнікамі.

У 1995 годзе А.Лукашэнка заклікаў вас перад выбарамі ў парламент: «Я ни за кого не буду голосовать. Ни за кого! Все равно обманут. Одни ушли со льготами, вторые придут – льготы прихватят, я не пойду голосовать! « (БТ 20.04.1995).

Сёньня ў нас тое ж самае. Толькі свабодныя выбары прэзыдэнта вырашаць лёс Беларусі.

Калі будуць у нашых душах маральныя хрысьціянскія каштоўнасьці, а яны бел-чырвона-белага колера, тады будуць жыць беларусы і беларусачкі, вашы дзеці і ўнукі. Давайце адбудуем разам наш эўрапейскі Дом-Храм – Беларусь.

Урэшце вам ліст ад сяброў БНФ:

23 верасьня мы з ранку пайдзем па грыбы. Потым папрацуем на градах. А увечары накрыем стол ды кульнем чарку за памяць нашых продкаў, за вяртаньне бел-чырвона-белага сьцяга і герба Пагоня. Узьдымем келіхі і вып'ем за шчасьце нашых дзетак і ўнукаў. За перамогу! Ды разам гукнем: Жыве Беларусь!

І будзем жыць у сям'і эўрапейскіх народаў і ў сяброўстве з амерыканцамі.

**Уладзімер Падгол, кандыдат у дэпутаты, Менск.**

**Заснавальнік і рэдактар:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч

**Адрас рэдакцыі:** г.Віцебск, 3-я Мопраўская, д. 14, тэл. 26-42-02, моб. +375299410197. Газета выдаецца з траўня 2003 г.

**Падпісана да друку 16.09.2012 у 17.50.** Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.